# Падарыце

***Святы Мікалай, які разносіць падарункі дзецям напрыканцы кожнага года, не проста моўчкі раздае іх. Яму цікава даведацца, як мы жывем, што нас радуе і што засмучае. Вось некаторыя з размоваў, якія нам удалося падслухаць.***

Святы Мікалай прынёс падарункі ў касцёл і запытаў:

— А скажыце мне, дзеткі, да каго вам хацелася б быць падобнымі?

— Да Маці Божай! — адразу ж адазвалася Надзейка.

— Да Езуса Хрыста, — разважліва сказаў Міколка, — бо Ён любіць усіх людзей, нават самых бедных.

— Да цябе, святы Мікалай, бо ты ўсім прыносіш радасць, — крыкнуў Андрэй і дакрануўся да вялізнага мяха святога Мікалая.



*Малюнкі Варвары Русанавай.*



Панёс святы Мікалай 25 снежня падарункі ў Дом культуры і запытаў у дзяцей:

— А ці памятаеце вы, дзеці, чый сёння Дзень народзінаў?

— Н-не ведаю... — занурылася Надзейка.

Хлопцы пераглянуліся паміж сабой і паціснулі плячыма.

— Сёння Дзень народзінаў Езуса Хрыста, — цярпліва патлумачыў святы Мікалай.

— А, дык гэта ж у Касцёле! —гукнуў Міколка, і Андрэйка падхапіў: — Так, увечары мы пойдзем...



# вернасць



Прыйшоў святы Мікалай на каляднае свята ў школу і таксама распачаў гутарку:

— А скажыце, дзеткі, мне, старому, хто вам найбольш падабаецца?

— Лялька Барбі! —апярэдзіла ўсіх Надзейка. — Бо яна самая прыгожая!

— Чалавек-павук! Бо ён надта ж спрытны! — гукнуў штосілы Міколка.

— Гары Потэр, бо ён...

Калі дзеці выбягалі з Дома культуры, іх паклікаў чыйсьці голас. Азірнуліся — святы Мікалай!

— А скажыце мне, старому, дзеткі, якія падарункі вы падрыхтавалі Езусу Хрысту?

— Мы будзем маліцца... — упэўнена адказала Надзейка.

— М-мы б-будзем... м-мы скажам, што... — пачаў Міколка, але чамусьці заблытаўся і замоўк.

Андрэй жа замест адказу запытаў:

— А хіба Яму трэба штосьці дарыць?

— Абавязкова! — прамовіў святы Мікалай і абняў адразу ўсіх траіх: — Падарыце Яму сваю вернасць, дзеткі...



*Малюнкі Аліны Мяльковай.*


*«Маленькі рыцар Беззаганнай». № 4 (70)/2015 г.*
*Часопіс для дзяцей. Выдаецца на ахвяраванні вернікаў.*
*Заснавальнік: Мінска-Магілёўская архідыяцэзія Рыма-каталіцкага Касцёла ў РБ.*
*220030, г. Мінск, вул. Рэвалюцыйная, 1а.*
*Часопіс зарэгістраваны ў Дзяржаўным рэестры сродкаў масавай інфармацыі за №904.*
*Касцёльны кансультант — кс. Дзмітрый Пухальскі, рэдактар — Ірына Францаўна Жарнасек, мастак — Галіна Хінка-Янушкевіч, камп'ютарная вёрстка — Алег Глекаў.*
***Адрас для лістоў:** а/с 101, 220002 г. Мінск-2;* **e-mail:** *m.rycar@yandex.by*
Фармат 70Х90 1/16. Ум. друк. арк. 1,05. Наклад 3 500 экз. Заказ № 8076.
Падпісана да друку 21.12.2015 г. Надрукавана ў УПП «Віцебская абласная друкарня»
ЛП 02330/0494165 ад 03.04.2009 г., вул. Шчарбакова-Набярэжная, 4. 210015, г. Віцебск.

# Крадзеж

## *Урокі айца Віталія*



— У мяне не ўсе грошы ў кашальку! — Трывожны мамін голас з суседняга пакоя, і Андрэй гатовы праваліцца скрозь зямлю. — Цэлых трыста тысячаў не хапае! Куды я магла іх падзець?!

Андрэй ведае, куды падзеліся тыя грошы. Гэта ён іх узяў употайкі ад мамы. Не прыдумаў нічога лепшага, бо вельмі хацелася мець часопіс пра танкі. Можа б і не так моцна хацелася б яго мець, калі б разам з часопісам не прадавалася яшчэ і мадэль танка. У ягоных сяброў ужо цэлыя калекцыі такіх мадэляў! А бацькі, як на тое, не далі ў гэтым месяцы грошай на кішэнныя расходы. Тата сказаў:

— Пакуль не выправіш чацвёрку па матэматыцы — ніякіх грошай!

Мама бедавала па грашах... Тата яе супакойваў. Андрэй больш не змог гэтага чуць і пайшоў да іх. Набраў поўныя грудзі паветра і выдыхнуў:

— Гэта я іх узяў... Пазычыў... Мадэль танка хацеў купіць...

— Я спадзяюся, ты разумееш, што гэта — крадзеж? — татавы бровы збегліся да пераносся.

— Але вельмі добра, што ты сказаў, — прытуліла мама сынаву галаву да сябе.

Што ж, сапраўды добра, што Андрэй яшчэ не паспеў растраціць грошы. Добра, што прызнаўся... Цяпер вось толькі трэба вывучыць матэматыку, і тата купіць яму часопіс. Але не раней. Так сказаў тата.

*Айцец Віталій Данілович, марыянін.*

I
Не май іншых багоў, апроч Мяне

II
Не ўжывай імя Пана Бога твайго дарэмна

III
Памятай дзень святы святкаваць

IV
Шануй бацьку свайго і маці сваю

VI
Не забівай



# з зямлі егіпецкай, з дому няволі...»

*Мабыць, няма дзіцяці, якое б не ведала, што красці нельга.*
*Але, на жаль, здараецца часам такое з намі...*
*Вось што думаюць пра гэта юныя браслаўчане:*

Нельга браць рэчаў, якія табе не належаць, бо калі ты будзеш красці, то будуць красці і ў цябе. А яшчэ праз гэты грэх можна трапіць у пекла.

*Яна Піртань, 10 гадоў.*



## X
**Не пажадай нічога, што належыць бліжняму твайму**



Я лічу, што сёмую запаведзь трэба выконваць для таго, каб усё ў гэтым свеце было на сваіх месцах. Каб чалавек меў магчымасць жыць бяспечна, каб кожнаму чалавеку было на што жыць. Каб усе людзі жылі ў супакоі і згодзе.

*Аліса Васючонак, 10 гадоў.*

Крадзеж — гэта вялікі грэх. Бог дае чалавеку права карыстацца нейкімі рэчамі, грашыма, а іншы чалавек не можа іх забраць толькі таму, што яму так захацелася, тым больш што скрадзеныя рэчы ці грошы маглі быць апошнімі ў чалавека і без іх ён нават можа загінуць

*Багдана Козусева, 9 гадоў.*



## IX
**Не пажадай жонкі бліжняга твайго**



Калі адзін чалавек нешта ўкраў у іншага, то ён зрабіў зло, нядобры ўчынак. Ён абразіў Пана Бога, які вучыць нас рабіць дабро і пазбягаць зла. Таксама праз гэты грэх ён абразіў іншага чалавека, а мы добра ведаем, што нельга людзей крыўдзіць!

*Аляксандр Цітовіч, 9 гадоў.*

Сёмая запаведзь забараняе нам красці рэчы нашых сяброў, родных і нават людзей, якіх мы не ведаем. Калі мы пачнем красці, то зграшым, таму што гэтыя рэчы не нашыя, мы іх не зарабілі сваёй працай. Праз гэты грэх мы можам страціць шматлікіх сяброў.

*Марына Маслоўская, 12 гадоў.*




## VIII
**Не сведчы фальшыва супраць бліжняга твайго**

## VI
**Не чужалож**

## VII
**Не крадзі**

*Падрыхтавала сястра эўхарыстка Таццяна Гмыза.*

***Хто краў, няхай больш не крадзе, лепш няхай працуе, здабываючы сваімі рукамі даброты...***

Эф 4,28

**Ірына Жарнасек**

# ЕЛКІ І ТУІ

Мінулай ноччу быў такі моцны вецер, што паламаў колькі дрэваў пры касцёле, параскідаў голле па двары, пашкуматаў туі пры агароджы. Ксёндз Андрэй папрасіў дзяцей прыйсці і дапамагчы навесці парадак. Аліса з Глебам прыбеглі, а больш у той вечар нікога з дзяцей не было. Дык ксёндз Андрэй скіраваў іх збіраць у кошыкі пазрываныя лапкі туяў.

Дзеці бадзёра выбеглі з кошыкамі ў двор і спыніліся адразу перад ганкам. Глеб рушыў быў направа, але Аліса тузанула яго за рукаво:

— Вунь бачыш — лапкі валяюцца...— махнула яна ў бок адзінай у двары яліны, якую яны штогод прыбіралі рознакаляровымі гірляндамі на свята Божага Нараджэння. Каля дрэва шчыраваў з пілой дзядзька Мікола. Ён абразаў ніжнія высахлыя лапкі ды скідваў іх у кучу.

— Гэта ж туя? — на ўсялякі выпадак запытаў у яго Глеб.

Дзядзька Мікола выпрастаўся, уважліва паглядзеў на дзяцей,



прымружыўся і з нейкай прытоенай хітрынкай адказаў:

— Не, гэта не туя. Бо тую, сябры мае, я ніколі ў жыцці больш ні з якім іншым дрэвам ніколі не зблытаю! Пайшлі, гора-батанікі, пакажу, дзе растуць туі!

А туі аказаліся на дзіва зусім не калючыя, наадварот, нават мяккія, прыемныя. Аліса падскоквала каля іх ды падбірала дробныя галінкі, скідвала ў кошык. Скідвала ды прыгаворвала:

— Якія хар-рошанькія! Мяк-кенькія! Прыг-гожанькія!

Дзядзька Мікола прысеў на камень, дастаў цыгарку і на Глебаву заўвагу, што, маўляў, пры касцёле нельга паліць цыгарэты, паволі так развеяў рукой сіні дым:

— Мне можна.

Дзеці ад гэткай упэўненасці ажно аслупянелі. Як гэта — можна? Чаму можна? Што за выключэнне? Не, яны трохі чулі, што дзядзька Мікола нібыта сядзеў не так даўно ці то ў турме, ці то ў якой калоніі, што ксёндз Андрэй радуецца заўсёды, калі дзядзька прыходзіць працаваць, бо тады ён не будзе мець спакусаў пайсці кудысьці ў іншае, небяспечнае для яго месца...

— Мне ксёндз Андрэй не забараняе курыць, бо ведае, што я занадта доўга, дзеткі, дыміў у сваім жыцці, каб цяпер лёгка адвыкнуць... А туі, дзеці, я запамятаў... каб на іх... Я з-за гэтых туяў... не з-за гэтых канкрэтна,

але ўвогуле... з-за туяў... — дзядзька закашляўся, сагнуўся, неяк абмяк, а потым узняў галаву і ўважліва паглядзеў на Глеба і Алісу, якія стаялі перад ім з адкрытымі ратамі. Усміхнуся ім і працягваў: — Падбілі мяне ў свой час сябрукі выкапаць у горадзе чатыры туі, каб зарабіць на гэтым грошы. Словам, на крадзеж падбілі, і я, дурань, згадзіўся. Нейкі там багаценькі дзядзька ім паабяцаў добры куш за іх, бо ён дом, бачыце, збудаваў, дрэўцаў жа не нарасло яшчэ пры ім. А, здаецца, ці то жаніцца збіраўся, ці то яшчэ якая трасца была... Та-а-ак... Дык прыдумалася яму туяў пры тым доме наторкаць. Ну і рынуліся мы, дурні, выкапаць іх у парку... А ўначы справа была. Дый не надта мы там разбіраліся... Вось і ўзяліся мы капаць... блакітную елку!

Дзядзька Мікола ўзняў палец угору пры апошніх словах, і Аліса ажно прысела, сама не разумеючы, чым яе так напалохала тая елка. Ды напалохала яе не елка, а сіняя, уся ў наколках рука дзядзькі Міколы, на якой варушыўся... нейкі дракон! Як толькі варухне дзядзька Мікола пальцамі, і дракон таксама пачынае варочаць... галавой! Дзядзька Мікола ўсміхнуўся дзяўчынцы:

— Не бойся! Не ўкусіць, — і нацягнуў рукаў на далонь, — гэтая дурнота ўжо там, у калоніі, прыйшла... Захацеў быць, як усе...



— Значыць, гэта праўда, — выціснуў нарэшце і Глеб з сябе слова, — вы былі ў калоніі... Страшна там?

Дзядзька Мікола зноў разагнаў дым, потым зірнуў на Алісу і сумна



так усміхнуўся ёй, зноў нацягваючы ды хаваючы пад рукаво галаву дракона на запясці рукі.

— Я скажу так: не страшна, а нявесела там... Зусім, скажу я вам, ня-ве-се-ла. А страшна на волі, калі ўзбрыдзе раптам якая дурнота ў галаву, і ты пойдзеш капаць сярод начы кіпарыс, тую альбо елку, альбо яшчэ якое ліха! Не туя ж і не елка вінаватыя, што нас тады ўначы міліцыя павязала, — наша дурнота вінаватая! Ды і цяпер бывае страшна таксама...



Глеб падбіў наском чаравіка маленькі каменьчык:

— Ну а цяпер чаго баяцца? На волі?

— Цяпер? Бо не ўсё забудзеш, хлопча, не вырвеш з памяці... Вось і гэтага, зубастага, з рукі не сатрэш...

Памаўчалі.

Алісе раптам пачало шчыпаць вочы, яна крутнула галавой, але і гэта не дапамагло. Дык забегла за дрэва, выцерла іх, а потым выйшла і ціха папрасіла дзядзьку Міколу:

— Вы, дзядзечка, толькі больш ніколі не выкопвайце ні туяў, ні елак...

— Слова даю! — ляпнуў дзядзька Мікола шапкай па калене і засмяяўся. Потым аціх, памаўчаў і дадаў цалкам сур'ёзна, нібы размаўляў з дарослымі: — Не для таго я, разумееце, часам сюды прыходжу і прашу ксяндза Андрэя даць мне якую працу. Душа, разумееце, просіць чагосьці іншага... Разумееце?.. Душа іншага просіць...

*Мастак — Вольга Чарняўская.*



# ГЭТАЯ ЗАГАДКАВАЯ МАМА МУ

*Госць часопіса — перакладчыца Надзея Кандрусевіч*

*Кожны раз, калі ў свеце з'яўляецца новая кніга, — гэта заўсёды свята. Часта так і кажуць: «Нарадзілася кніга». Нядаўна ў Беларусі святкавалі чарговы дзень народзінаў кнігі для дзяцей шведскай пісьменніцы Юі Віспандэр «Мама Му ў басейне». А пераклала яе на беларускую мову Надзея Кандрусевіч.*

— *Спадарыня Надзея, колькі кніжак Вы пераклалі ўжо для дзяцей?*

— Усяго выйшла 9 кніг. Сярод іх — «Малы і Мядзведзік», «Малы і Білан» Юі і Томаса Віслапдэраў, пяць кніг пра Маму Му і яе сяброў Юі Віслаидэр і дзве кнігі Сары Лундберг.

— *Якая з перакладзеных кніг Вам найбольш падабаецца?*

— Шчыра кажучы, я люблю ўсё, бо інакш хіба і быць не можа: трэба любіць тое, што робіш! Але вось цяпер найбольш падабаецца хіба што апошняя кніга — «Мама Му ў басейне» Юі Віслаидэр. У ёй распавядаецца пра тое, як Мама Му паехала ў басейн і атрымала там самы сапраўдны медаль. Падабаюцца мне і кнігі Свэна Нурдквіста пра старога Пэтсана і яго коціка Фіндуса, якія хутка павінны выйсці.

— *Скажыце, у Вас ёсць любімы дзіцячы пісьменнік? А літаратурны герой?*

— Я вельмі люблю Астрыд Лінгрэн. Нам звычайна падабаецца чытаць тыя кнігі, якія найбольш адпавядаюць нашаму настрою. Таму, калі весела, хочацца чытаць аб прыгодах Пэпі Доўгайпанчохі ці Эміля, а калі сумна, то, напрыклад, тады больш адпавядае прынц Міа з кнігі «Міа, мой Міа».

— *Прызнаюся, я таксама вельмі люблю Астрыд Лінгрэн і яе Пэпі Доўгуюпанчоху. А якія героі з перакладзеных Вамі кніг найбольш Вам падабаюцца?*



— Вядома, Мама Му і яе сябар Крумкач, а таксама стары Пэтсан ды коцік Фіндус, з якімі беларускія дзеці неўзабаве сустрэнуцца.

*— За што Вы іх так моцна любіце?*

— Бо гэтыя героі ўсе вельмі розныя. Яны ўвесь час нешта выдумляюць і спрабуюць нешта новае, незвычайнае, цікавае. Напрыклад, Мама Му хоча навучыцца чытаць, катацца на ровары, плаваць у басейне, гушкацца на арэлях, хоць Крумкач і нагадвае ёй, што каровы мусяць стаяць у кароўніку і есці сена.

*— Ах жа, гэтыя крумкачы!.. А дзецям, дакладней, чытачам, гэтая гераіня таксама падабаецца?*

— Спадзяюся, яны таксама яе палюбілі, бо Мама Му спрабуе рабіць тое, што звычайна робяць дзеці.

*— Напэўна ж, Вы былі на радзіме сваіх герояў. Вам падабаецца Швецыя?*

— Так, я была ў Швецыі. Гэта вельмі цікавая краіна. А зрэшты, кожная краіна цікавая па-свойму.

*— Ведаю, што ў Вас ёсць сын Янка і дачка Марынка. Ці падабаюцца ім кніжкі, якія перакладае іх мама?*

— О так, яны вельмі любяць гісторыі пра Малога і Мядзведзіка, пра Маму Му і Віту. Калі я працую над чарговым перакладам, то звычайна Ян і Марына становяцца першымі слухачамі новай кнігі.

*— Нядаўна ў Мінску была прэзентацыя новай кнігі Юі Вісландэр «Мама Му ў басейне». На сустрэчу з аўтаркай і з Вамі прыйшло шмат дзяцей. Вы былі рады?*

— Вядома! Юя прыязджала ў Беларусь трэці раз, і прыемна было бачыць, што за гэты час фанатаў Мамы Му і Крумкача ў нас значна паболела. Гэтым разам Юя сустрэлася з чытачамі не толькі ў Мінску, але і ў Віцебску.

*— Новых Вам перакладаў, спадарыня Надзея, новых цікавых кніг! Мы, чытачы, будзем іх чакаць! А ад Вашых дзяцей — Янкі і Марынкі — чакаем іх малюнкі. Бачыла ў інтэрнэце — вельмі цікавыя!*

— Дзякую. Я ім перадам.




*Гутарыла*
*Ірына Жарнасек.*



| | Студзень | Люты | Сакавік |
|---|---|---|---|
| НД | 3 10 17 24 31 | 7 14 21 28 | 6 13 20 27 |
| ПН | 4 11 18 25 | 1 8 15 22 29 | 7 14 21 28 |
| АТ | 5 12 19 26 | 2 9 16 23 | 1 8 15 22 29 |
| СР | 6 13 20 27 | 3 10 17 24 | 2 9 16 23 30 |
| ЧЦ | 7 14 21 28 | 4 11 18 25 | 3 10 17 24 31 |
| ПТ | 1 8 15 22 29 | 5 12 19 26 | 4 11 18 25 |
| СБ | 2 9 16 23 30 | 6 13 20 27 | 5 12 19 26 |

1.01 – Святой Багародзіцы Марыі; 6.01 – Аб'яўленне Пан
10.01 – Хрост Пана; 10.02 – Папялец; 19.03 – Святога
Вялікдзень; 05.05– Унебаўшэсце Пана; 15.05 – Спасланне
22.05 – Найсвяцейшай Тройцы; 26.05 – Найсвяцейшага
Хрыста; 29.06 – Святых Пятра і Паўла, апосталаў; 15.08
Найсвяцейшай Панны Марыі; 1.11 – Усіх Святых; 27.11 – П
Адвэнту; 8.12 – Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай
25.12 – Нараджэнне Пана.

| | Ліпень | Жнівень | Верасен |
|---|---|---|---|
| НД | 3 10 17 24 31 | 7 14 21 28 | 4 11 18 25 |
| ПН | 4 11 18 25 | 1 8 15 22 29 | 5 12 19 26 |
| АТ | 5 12 19 26 | 2 9 16 23 30 | 6 13 20 27 |
| СР | 6 13 20 27 | 3 10 17 24 31 | 7 14 21 28 |
| ЧЦ | 7 14 21 28 | 4 11 18 25 | 1 8 15 22 29 |
| ПТ | 1 8 15 22 29 | 5 12 19 26 | 2 9 16 23 30 |
| СБ | 2 9 16 23 30 | 6 13 20 27 | 3 10 17 24 |



| Красавік | | | | | Май | | | | | Чэрвень | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 3 | 10 | 17 | 24 | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 | | 5 | 12 | 19 | 26 | нд |
| | 4 | 11 | 18 | 25 | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 | | 6 | 13 | 20 | 27 | пн |
| | 5 | 12 | 19 | 26 | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 | | 7 | 14 | 21 | 28 | ат |
| | 6 | 13 | 20 | 27 | 4 | 11 | 18 | 25 | | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 | ср |
| | 7 | 14 | 21 | 28 | 5 | 12 | 19 | 26 | | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 | чц |
| 1 | 8 | 15 | 22 | 29 | 6 | 13 | 20 | 27 | | 3 | 10 | 17 | 24 | | пт |
| 2 | 9 | 16 | 23 | 30 | 7 | 14 | 21 | 28 | | 4 | 11 | 18 | 25 | | сб |

…а (Тры Каралі); …Юзафа; 27.03 – …е Духа Святога; …а Цела і Крыві … – Унебаўзяцце …ершая нядзеля … Панны Марыі;

# 2016

| …ь | Кастрычнік | | | | | Лістапад | | | | | Снежань | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 | | 6 | 13 | 20 | 27 | | 4 | 11 | 18 | 25 | нд |
| | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 | | 7 | 14 | 21 | 28 | | 5 | 12 | 19 | 26 | пн |
| | 4 | 11 | 18 | 25 | | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 | | 6 | 13 | 20 | 27 | ат |
| | 5 | 12 | 19 | 26 | | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 | | 7 | 14 | 21 | 28 | ср |
| | 6 | 13 | 20 | 27 | | 3 | 10 | 17 | 24 | | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 | чц |
| | 7 | 14 | 21 | 28 | | 4 | 11 | 18 | 25 | | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 | пт |
| 1 | 8 | 15 | 22 | 29 | | 5 | 12 | 19 | 26 | | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 | сб |





# Яраславу сёстры рады

Сёстры Сафійка і Варвара Аўсянікавы — гараджанкі, навапалачанкі. А іх бабуля з дзядулем жывуць у Міёрах. Там дзяўчынкі вельмі любяць бываць, адпачываць, на канікулах гуляць. Дзіва што: столькі раздолля на прыродзе!

Мінулым летам у іх сям’і адбылася вельмі важная падзея — у сясцёр з’явіўся яшчэ і брат Яраслаў! Той дзень, калі яго хрысцілі, запамятаецца сёстрам назаўсёды! Гэта было сапраўднае свята для іх, а таксама для мамы з татам, для дзядуляў і бабуляў, для ўсіх родных і блізкіх. Няхай жа хлопчык шчасліва падрастае ў Божай любові ды любові сваіх родных!

*І. Студзеньская.*
*Фота В. Аўсянікавай.*





Міхаіл МАЛЫШАЎ

# МАСКА



*Навагодняя казка*

Аднойчы кампанія моладзі святкавала Новы год проста ў лесе. Яны распалілі вялікае вогнішча, а самую стройную елку ўпрыгожылі бліскучымі цацкамі. Усю ноч у лесе гучала музыка, чуўся смех. А раніцай, калі моладзь пакінула лес, на тое месца прыскакаў Заяц. Уначы ён назіраў з-за елак за гэтым дзіўным святам і цяпер вырашыў паласавацца рэшткамі гасцінаў. Але ні морквы, ні хрумсткай капусткі не знайшоў. Пабедаваў Заяц ды сабраўся ўжо сігануць прэч, як раптам на здратаваным снезе, сярод недакуркаў, пустых бляшанак з-пад кансерваў і бутэлек ён убачыў штосьці вельмі ж знаёмае.

Прыгледзеўся і ахнуў ад страху: перад ім ляжала галава ваўка з выскаленымі клыкамі, а побач... заечая... «Мабыць, людзі засмажылі на вогнішчы ваўка, а разам з ім... і... і зайца», — падумаў Касавокі. Але прыгледзеўся лепш і супакоіўся: на снезе ляжалі маскі! Некалі Заяц чуў, што гэтыя дзіўныя людзі на Новы год любяць чамусьці апранацца звярамі. Заяц пакруціў у лапах маскі, і яму ў галаву прыйшла цудоўная ідэя: «А чаму б мне не надзець маску Ваўка ды не прагуляцца ў ёй па лесе? Гэта ж столькі праблемаў адразу адсыплецца — ніводзін звер мяне тады не зачэпіць!».

Заяц адзеў ваўчыную маску і, падскокваючы, панёсся ў лясны гушчар. Першай сустрэлася яму Ліса.

— Здарова, Воўк! — ветліва павіталася з ім Патрыкееўна.

— Прывітанне, Рыжуха, — працадзіў Заяц скрозь зубы і прыпыніўся.

— Ты часам заўцоў не бачыў паблізу? — павяла Ліса носам.

— Не, не сустракаў. А што?

— Дзіўна... Хіба ты, Воўк, не чуеш паху зай-ча-ці-ны?..

— Не чую, — кінуў Заяц быццам бы абыякава, а ў самога сэрца скокнула ў пяты, бо ўспомніў, як учора гэтая Рыжуха ліха ведае колькі насілася за ім па лесе. Вядома, што з ім было б, калі б яна яго дагнала. Дык размахнуўся Заяц штосілы дый урэзаў рыдлёўкай па лісінай патыліцы.

— Ай-ёй! Што робіш, Шэры? — залямантавала Ліса, паціраючы карак.

— Прэч, рудая пачвара! А то скуру здзяру! — закрычаў Заяц.

Патрыкееўна падціснула хвост і рынулася прэч. «Вось табе!» — хмыкнуў Заяц і важна так рушыў сабе далей.

Сустрэў Мядзведзя. Таптыга рамантаваў сваю бярлогу, якая абвалілася адлігаю.

— Здарова, Таптыга! — павітаўся Заяц.

— Здароў, Воўк. — Мядзведзь толькі зірнуў вобмільгам на Зайца і зноў узяўся за сваё.

«Аг-га, на Ваўка Мядзведзь ледзьве вокам кінуў, а што было б, каб ён мяне ўбачыў? Панёсся б адразу за мной, — падумаў Заяц. — Не, што ні кажы, а маска — вялікая рэч! А што ж будзе, калі я сапраўднага Ваўка сустрэну? Мабыць, лапу мне пацісне...»

І тут Заяц убачыў за два крокі ад сябе свайго Суродзіча, касавокага зайца. Той сядзеў на карчы і ва ўсе вочы таропіўся на яго.

— Што, дрыжыш? — усміхнуўся Заяц. — Не бойся, не з’ем.

Суродзіч не варушыўся.

Гэта яшчэ больш развесяліла Зайца:

— Ну сказаў жа: не бойся, значыць і не бойся. Выдам табе сакрэт: я — не Воўк. Я — гэткі ж заяц, як і ты. Не верыш? Зірні! —



І Заяц зняў ваўчыную маску. — Добрая рэч! Я з дапамогай яе ўжо правучыў і Лісу, і Мядзведзя абдурыў...

Заяц на карчы нейк дзіўна хіхікнуў.

— Што смешнага? А хочаш, можам з табой па чарзе насіць ваўчыную маску. Што маўчыш? Баішся?

Але Заяц на карчы нечакана гучна ляснуў зубамі і зарычэў:

— Нічога я не баюся! І скажу табе па сакрэце, што ніякі я не Заяц, а... Воўк. Сапраўдны Воўк!

З гэтымі словамі ён здзёр з сябе маску:

— Я так і думаў, што маска дапаможа мне паласавацца сёння зайчацінай!

Ён, аказваецца, таксама быў на тым месцы, дзе людзі святкавалі Новы год, і падхапіў там маску зайца!.. Але думаць пра гэта не было часу. З хуткасцю кулі Зайц кінуўся прэч! Толькі дзякуючы сваім хвацкім нагам ён і на гэты раз выжыў.

...Позна ўвечары, адпачыўшы пасля сваіх прыгодаў, Заяц прыбег на паляну, дзе яны сустрэліся з Ваўком, знайшоў абедзве маскі і старанна закапаў іх у снег, каб ніхто больш не мог змяніць сваё аблічча: ні Воўк, ні які іншы звер. Бо калі ўсё на сваіх месцах, тады яно... спакайней на душы.

*Малюнкі Анастасіі Каліноўскай*

*Пераклад з рускай мовы*
*Ірыны Жарнасек.*



# САМАЯ ВАЖНАЯ СУСТРЭЧА

*Пачатак публікацыі ў № 1 (55) за 2012 год.*



Пасля святой Камуніі і малітвы адбываецца рассыланне. Гэта азначае, што як Езус паслаў сваіх вучняў, каб яны ішлі па свеце і распаўсюджвалі Евангелле, так і нас пасылае святар. Мы — таксама вучні Езуса.







Святар кажа:
— Пан з вамі!
Мы адказваем:
— ... І з духам тваім!

Святар:
— Няхай благаславіць вас Бог Усемагутны, Айцец і Сын, + і Дух Святы.

Мы робім знак крыжа, прымаем благаслаўленне і адказваем:
— Амэн!



Пасля некалькі хвілінаў малітвы вернікі выходзяць з касцёла. Мы пасланыя Езусам у свет рабіць добрыя справы, каб па ўсёй зямлі праслаўлялася імя Божае! Памятай: табе, асабіста кожнаму з нас, Езус даручыў адказную місію — несці ў свет Добрую Навіну аб збаўленні.

**Заданне**




Напішы, калі адбылася самая першая Эўхарыстыя ў свеце. Хто яе цэлебраваў? Хто прысутнічаў?



# Гульні Загадкі




## ЗАГАДКІ З БІБЛІІ

Сябры!

Вітаем вас у чарговы раз на нашай старонцы і прапануем новыя загадкі. Што трэба для таго, каб правільна іх разгадваць? Уважліва чытаць Біблію, разважаць над прачытаным. Жадаем вам навучыцца гэта рабіць. А яшчэ Біблію важна навучыцца чытаць і разумець дзеля таго, каб проста быць добрым хрысціянінам. Менавіта дзеля гэтага мы і прапануем вам кожны раз нашыя загадкі. Поспехаў!

- Калі Ян Хрысціцель напоўніўся Святым Духам? (Лк 1).
- Што азначае імя Езус? (Мц 1).
- «Анёл Панскі звеставаў Панне Марыі і зачала ад Духа Святога»... Якая малітва пачынаецца гэтымі словамі? Калі мы яе молімся?
- Магніфікат. Калі гэты гімн прагучаў у Евангеллі? Хто яго прамовіў?
- Якімі словамі праславіў Пана Бога Захарыя пасля нараджэння ягонага сына? Як бацькі назвалі яго?
- Як анёлы праславілі Бога, даведаўшыся пра нараджэнне Сына Божага? У якім Евангеллі вы прачыталі пра гэта?

*Маленькі рыцар Беззаганнай*

Адказы на **Загадкі, змешчаныя ў № 3 за 2015 г.**

**«Загадкі з Бібліі»:** Захарыю з’явіўся Анёл Пана і сказаў: «Не бойся, Захарыя, бо выслухана просьба твая...»; у Кнізе прарока Ісаі; анёлы; анёл сказаў святому Юзафу, каб даверыўся Богу і прыняў сваю жонку Марыю; Арханёлы Міхал, Габрыэль і Рафал; помнік Арханёлу Міхалу ёсць у Мінску, каля касцёла святых Сымона і Алены.

Разгадка задання **«Галубка»**: аліва.

**«Нашы памочнікі»**: кот, гусак, авечка, трус, пчолы, сабака, курыца, конь, карова, свінка, каза.




Узнагароды за правільныя адказы атрымаюць: **Аляксей Томкавіч** з Вілейкі і **Маргарыта Ясэпкіна** з Полацка. Віншуем пераможцаў!

*Маленькі рыцар Беззаганнай*

## Смяшынкі-Весялінкі

**Кніга – лепшая**

Дзве мышкі сцягнулі дыск ад камп’ютара і спрабуюць грызці яго.

— Гэты фільм — абы-што! Адну назву толькі можна так-сяк пераварыць... — бурчыць незадаволена адна.

— І мне здалося, што кніжка была нашмат лепшая! — здагадалася сяброўка.



# Крыжаванкі

## ЦІ ВЕДАЕШ ТЫ СВАЮ КРАІНУ?




## ГАРАДЫ БЕЛАРУСІ



Полацк — самы . . . . . . горад Беларусі.



Высокае — самы . . . . . . горад Беларусі.



Мінск — самы . . . . . . горад Беларусі.



Верхнядзвінск — самы . . . . . . горад Беларусі.



Нароўля — самы . . . . . . горад Беларусі.

**Калі ты правільна выкарыстаеш напісаныя тут словы-падказкі, то і выканаеш наша заданне. Увага: тут ёсць тры лішнія словы.**

*Зялёны, паўднёвы, заходні, паўночны, малады, вялікі, старажытны, маленькі, прыгожы.*



Дзісна — самы . . . . . . горад Беларусі.

## Рэбус






~~УХ~~

Э



~~ЗО~~

Калі правільна разгадаеш гэты рэбус, то прачытаеш, як называецца галоўнае набажэнства святаў Божага Нараджэння.

# Чым змагу — дапамагу

Прыбіраць у касцёле — вельмі адказная справа. У гэтым нядаўна пераканалася Маргарыта Ладзіс з Наваполацка. Яе мама сабралася ісці прыбіраць парафіяльны касцёл, і Маргарыта прапанавала ёй дапамагчы. Мама ўзрадавалася, бо працы даволі шмат, а ўдзвюх яно ж і весялей, і ямчэй.

Выціраць пыл з лавак — нібыта і нескладаная справа, але ж калі іх шмат, то можна й прытаміцца — ды гэта прыемная стома. І ў нядзелю, калі Маргарыта пабегла на святую Імшу, ёй было асабліва прыемна маліцца ў прыбраным уласнымі рукамі касцёле.



А хтосьці з вас, дзеці, таксама чымсьці дапамагае ў касцёле? Падзяліцеся. Раскажыце, як у вас гэта атрымліваецца.

*Аленка-майстрыха*







# Галерэйка



"Святая Рыта".
Маргарыта Чапко, 8 гадоў.

З радасцю прадстаўляем наведвальнікам нашай «Галерэйкі» юных мастакоў з парафіі Узвышэння Свято-га Крыжа з Брэста. Такімі яны бачаць радасных хрысціянаў.



"Святы Мікалай".
Наста Назарэнка.



"Святы Ян Боска".
Уладзіслаў Макараў.



"Святы Мікалай".
Рэната Мандрык.



"Анёл".
Ангеліна Пікалюк.



У афармленні матэрыялаў нумара прымалі ўдзел юныя мастакі з ДУА «Гімназія-каледж мастацтваў імя І. В. Ахрэмчыка» (майстэрня Г. Хінкі-Янушкевіч).

*Малюнак Марыны Рудчык.*